Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 3 (150) Вільня, Субота 7 Студзеня 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1.
(Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.
— ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА:
На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 2 зл., на шэсьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл.
Для заграніцы ўдвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## Усяму праваслаўнаму грамадзянству жадаем ВЯСЁЛЫХ КАЛЯД!

# Хто з намі.

Выбары ў Сойм і Сэнат маюць для нас Беларусаў пад Польшчаю важнае значэньне, бо праз гэтыя выбары, з аднаго боку, мы можам паказаць сьвету, што пад Польшчаю ёсьць Беларускі Народ у вялікай масе, з другога боку, можам праз соймавую трыбуну весьці барацьбу за зьдзейсьненьне Ідэалу Беларускага Народу і сацыяльнага вызваленьня працоўных масаў.

Каб гэтая барацьба магла мець большы пасьпех, ёсьць ведама, патрэбна каб у Сойм і Сэнат беларускія працоўныя масы—сяляне і работнікі паслалі якнайбольш сваіх барацьбітоў. З прычыны таго, што выбарны закон і падзел выбарных акругоў крыўдзіць ня толькі Беларусаў, але і іншыя нацыянальныя меншасьці і каб хоць часткова направіць крыўду, Беларусы прымушаны аб'яднацца на выбары ня толькі паміж сабою, але і з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі. Беларусы зразумелі, што толькі аб'яднаныя і толькі блёк усіх меншасьцяў—зьяўляецца магутнай сілай.

Але ня толькі Беларусы, Украінцы, Літвіны, Жыды і Немцы гэта добра зразумелі, разумеюць гэта і польскія палітычныя партыі. І вось, як толькі зьявіліся чуткі аб магчымым аднаўленьні 16-кі, г. зн. блёку нацыянальных меншасьцяў, баючыся будучага парлямантскага няпольскага прадстаўніцтва, польскія партыі, як буржуазнай, так і пралетарскай ідэалёгіі, нявыключаючы і прававерных камуністых, праз сваю прэсу паднялі алярм, з мэтаю разьбіцьця беларускага аднолітага фронту і саюзу ўсіх меншасьцяў. Мала гэтага алярму, польскія палітычныя і кіраўнічыя сфэры павялі атаку з двух бакоў. З аднаго боку, усімі спосабамі хацелі разьбіць блёк, запужваючы асобныя нацыянальнасьці рознымі „падарунначкамі“, з другога боку—павялі атаку на паасобныя нацыянальнасьці, імкнучыся недапусьціць да таго, каб кожная нацыянальнасьць ішла аб'яднаным супольным сьпіскам.

Атака першая на блёк нацыянальных меншасьцяў не ўдалася, бо ня гледзячы на пагрозы, заснаваньне блёку можна ўважаць за факт споўнены.

Атака другая, на аб'яднаньне нацыянальных меншасьцяў, хоць і не прынесла польскім партыям і палітыкам пажаданых рэзультатаў, аднак зрабіла пэўную шчэрбу ў нацыянальным руху некаторых нацыянальнасьцяў.

Найбольш цікавіць нас справа выбарнай акцыі сярод Беларусаў. Як ведама, Беларусы далучыліся да агульнага блёку нацыянальных меншасьцяў, але атака польскіх палітычных дзейнікаў зрабіла тое, што ня ўсе беларускія партыі ідуць разам з блёкам.

Усім ведама, што ў Заходняй Беларусі істнуюць чатыры палітычныя кірункі, якія можна залічыць да кірункаў беларускіх, гэта: Беларускі Сялянскі Саюз, Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, Беларуская Праваслаўная Дэмакратыя і палітычны кірунак, афіцыяльна ня істнуючы, аднак ідэалёгічна зьвязаны з б. Грамадой.

Вось гэтыя чатыры палітычныя волаты абыймаюць амаль увесь палітычны беларускі рух. Каб гэтыя чатыры кірункі на выбары пайшлі разам, дык у беларускіх вакругох (Сьвянцянскім, Лідзкім, Наваградзкім, Беластоцкім і часткава ў інш.) забралі-б усе мандаты. І вось, проці аб'яднаньня гэтых палітычных кірункаў і пайшла чужацкая атака. Тыя партыі, якія моцна стаяць на нацыянальным грунце і за сацыяльнае вызваленьне беларускага сялянства і работнікаў вытрымалі атаку і не паддаліся. Толькі адна б. Грамада ня вытрымала атакі і паддалася гіпнозе чужацкае сілы. У выніку гэтага падданьня б. грамадаўцы прававерныя не пайшлі на беларускае аб'яднаньне і не пайшлі ў блёк нацыянальных меншасьцяў. Аднак у сувязі з гэтым узьнік катастрафальны разлом усей групы б. грамадаўцаў, бо распалася яна аж на 5 частак. Адна частка, пераважна з сялянскай ідэалёгіяй, найбольшая па ліку, выказалася за аб'яднаньнем Беларусаў на выбары і за блёкам нацыянальных меншасьцяў, другая частка прававерная — залажыла „сялянска-работніцкі“ камітэт і пастанавіла ісьці разам з польскай партыяй сацыялістычнай (ППС лявіца) і з польскімі незалежнымі сацыялістымі. Трэцяя частка пайшла за кансэрватарам і б. сэнатарам Уласавым. а чацьвертая за кулацкім кірункам Я. Станкевіча. Гэтыя апошнія маюць выстаўляць асобныя сьпіскі. Пятая частка, на чале з сьвяшч. Каўшом, (выпушчаным з вастрогу пад каўцыю), начала арганізаваць праваслаўную палянафільскую партыю і мяніцца выставіць свой сьпісак з духоўнымі на чале. Гэтакім чынам сымпатыкі б. Грамады распаліся на 5 частак, з якіх адна (пераважная большасьць сялянства) будзе галасаваць за сьпісак блёку нацыянальных меншасьцяў, другая прававерная за сьпісак польскага работніцкага аб'яднаньня, трэцяя, чацьвертая і пятая—пойдуць асобнымі сьпіскамі. З такога разьбіцьця, а асабліва з таго, што частка прававерных пойдзе пад сацыяльнымі лёзунгамі разам з польскімі хоць і левымі партыямі вельмі цешыцца польская прэса Урадавая газэта „Kurjer Wileński“ адкрыта хваліць б. грамадаўцаў за тое, што яны ня ўсе пайшлі за блёкам і за тое, што разьбіліся на некалькі груп. Мала гэтага, паводле слоў аднаго б. грамадаўца, у нагароду за ўсё гэта, і каб адарваць частку галасоў ад сьпіску блёку нацыянальных меншасьцяў, быццам польскія кіраўнічыя сфэры запэўнілі, што сьпісак прававерных грамадаўцаў ня будзе скасаваны. Быццам у падзяку за гэта, некаторыя сымпатыкі грамадаўскага руху пачалі выяўляць угодніцкія тэндэнцыі. Яскравым прыкладам гэтага ўгодніцтва зьяўляецца акцыя гр. Чатыркі ў Навагрудку, які з палітычнага дзеяча стаўся паслушным „урадоўпам“ і палянафілам. Тое самае пачаў рабіць Коўш, творачы з мітрапалітам Дыянісам і арх. Філіпам Марозавым праваслаўную партыю палянафільскую. Такую самую, аднак больш нявыразную ролю пачалі выяўляць прыхільнікі групы Я. Станкевіча і Уласава.

Апрача разьбіваньня беларускіх палітычных кірункаў польскія палітыкі заняліся тварэньнем як найбольшага ліку, хоць і зусім непапулярных, рожных псэўда-беларускіх сьпіскаў. Мала было Паўлюкевіча і Умястоўскага, ім на падмогу пушчаны ў ход новыя, быццам, беларускія групы, якіх роля заключаецца толькі ў тым, каб здэзыр'ентаваць беларускага выбаршчыка і не пусьціць яго зусім галасаваць. Такім чынам вырасьлі скора, як грыбы, адозвы: адна Валэйшы, другая Мамонькі, трэцяя Міткевіча з Баранавіч ды яшчэ нейкая „Народная Ніва“—Бохана і Назарэўскага і г. д.

Усё гэта робіцца дзеля таго, каб беларускі выбаршчык з кучы рожных адозваў у беларускай мове (і польскія партыі адозвы выдаюць пабеларуску) ня мог выбраць сабе сапраўды беларускай адозвы і аддаць за яе сьпісак голас Аднак сёлетнія выбары не павінны выказаць, што беларускія сяляне і работнікі дагэтуль мала асьведамляны. Пяць гадоў працы беларускіх паслоў не павінны прапасьці, усё сялянства і работнікі павінны сабе помніць, што хто разьбівае беларускае аб'яднаньне, той зьяўляецца ворагам нашага сацыяльнага вызваленьня і нацыянальнага адраджэньня. Усе групы і партыі, што называюць сябе беларускімі, але ня ідуць супольна з Беларускім Аб'яднаным Камітэтам блёку нацыянальных меншасьцяў, зьяўляюцца або здраднікамі беларускага руху, або падшыванцамі, працуючымі для чужынцаў. Аб гэтым усім—сялянам і работнікам трэба добра помніць, каб у дзень 4-га сакавіка аддаць свой голас толькі за сьпісак беларускага аб'яднаньня, бо толькі той, хто ідзе з намі, зьяўляецца сапраўдным барацьбітом за вызваленьне працоўных гушчаў.

# Напады абшарнікаў.

Некалькі дзён таму назад віленскае абшарніцка-манархістычнае „Słowo“ ў сваей зьвярынай ненавісьці да нас, ня маючы нічога канкрэтнага, каб збоку ідэалёгічнага затушыць беларускую нацыянальную думку, як і трэба было чакаць, зрабіла нам закіды ў тым, што быццам мы на выбарную акцыю атрымліваем грошы ад чэскага ўраду і з Коўны.

Рэч зусім ясная і вельмі зразумелая. Польская газэта „Słowo“, якая жадае сьмерці Беларускаму Народу, ня маючы ніякіх іншых радыкальных сродкаў, выконваючы заўсёдную ролю даношчыка, карыстаючыся сваею блізасьцю да ўраду (мін. справядлівасьці Мэйштовіч гэта-ж з яе партыі), імкнецца да таго, каб злоснымі даносамі выклікаць адносна нас рэпрэсіі. Відаць што рэпрэсіі, гэта адзіны, па іх думцы, ратунак на забойства нас Беларусаў, як Народу, а лічачы тых, хто ўваходзіць цяпер у Беларускае Выбарнае Аб'яднаньне, крыніцаю беларускага адраджэнска-нацыянальнага і вызвольна-сацыяльнага руху, яны спадзяюцца, што рэпрэсіі здалеюць зніштожыць увесь рух. Гэтакая вось іх сыстэма і такія мэтоды змаганьня з намі.

Другім разам ізноў-жа, тое самае „Słowo“ разглядаючы справу Выбарнага Блёку Нацыянальных Меншасьцяў паўтарыўшы ўсе папярэднія сказы дабавіла,што быццам Беларусы імкнуцца далучыць Беларусь да Літвы.

У адказ на гэта мы зазначым некалькі момантаў, якія пакажуць, на колькі злосныя ды ілжывыя закіды польскіх абшарнікаў.

Перадусім зробім падход з боку лёгікі. Якое заінтэрасаваньне можа мець чэхаславацкі ўрад, каб мог даваць грошы са свайго дзяржаўнага скарбу на антыпольскую працу? Ясна, што на гэта тое-ж „Słowa“ ніяк адказаць ня можа. А калі так, дык само па сабе, гэта гавора, што кіраўнікі „Słowa“ робяць закіды ў мэтах таго, каб выклікаць адносна нас рэпрэсіі. Проці гэтага, як і проці закідаў мы горача і рашуча пратэстуем. Гэта—адно, а цяпер вось і другое.

Дзе гэта відана, каб чалавек, які хоча жыць самастойна жадаў сам сябе аддаць некаму, каб той панаваў над ім? А што, калі ня гэтак справа выглядала-б, калі-б верыць „Słowu“. Ды яшчэ! Дзе тут лёгіка? Беларусаў 12 мільёнаў, а Літвінаў—3 м., дык як-жа можна падпарадкаваць 12 адзінак тром? Гэта такі абсурд, што ня чым іншым, а толькі злосьцей і ілжывасьцю „Słowa“, можна вытлумачыць. Мы паўтараем, што віленскім манархістам, якія складаюцца з абшарнікаў, ходзіць аб тое, каб задушыць беларускі нацыянальны рух і толькі... А ў мэтах гэтага, яны ня маюць ніякага разбору, для іх усе сродкі зьяўляюцца добрымі... Але-ж залгаліся паны абшарнікі. Дашлі да таго, што стала ўсім ясна іх злая воля.

Хочацца адзначыць і другое, а іменна, сказаць некалькі слоў адносна таго, што быццам твораць беларускі нацыянальны рух тыя дзейнікі, якія згуртаваліся, каля Беларускага Выбарнага Аб'яднаньня. Гэта таксама абсурд і нялёгізм „Słowa“. Мы, на вялікую для нас радасьць сьцьверджаем, што справа стаіць наадварот. Ня тыя дзейнікі, якія ўваходзяць у Аб'яднаньне, твораць беларускі нацыянальны рух, а Беларускі нацыянальны рух стварыў Аб'яднаньне. Гэтым мы можам пахваліцца і пахваліцца дзеля таго, каб паказаць, што выдумкі „Słowa“ зьяўляюцца толькі выдумкамі. Беларускі нацыянальны рух стварыў свае арганізацыі, якія кіруюць гэтым рухам, і калі-б „Słowa“ дапяло сваей мэты, калі-б, у выніку рэпрэсіяў, гэтыя арганізацыі і былі зліквідаваны, дык народ усяроўна астаўся-б...

Народ выдаў-бы з сябе новыя выдатныя сілы, якія склалі-б новыя арганізацыі. Трэба ведаць, што народ гэта крыніца, якую вычарпаць, ці засыпаць нельга. Вада тэй крыніцы заўсёды знойдзе выхад! Змагацца з народам, (ды яшчэ з такім, які толькі што адрадзіўся і стаў да жыцьця, а цераз гэта зьяўляецца маладым, здаровым і моцным арганізмам), ня можна. Рабіць гэта могуць толькі польскія абшарнікі.

**Скарга.**

